Гутарку з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Вялікабрытаніі чытайце на 5-й стар.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 82 (4437)

18 кастрычніка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар. Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы, тэмы.*
**Тэл. (8 017) 328 68 71**

ВЫБАРЫ-2019



## Алена АНІСІМ: «Я чакала гэтага рашэння...»

*Дэпутата Палаты прадстаўнікоў Алену Анісім не зарэгістравалі кандыдатам ў дэпутаты. Яна прыняла рашэнне сысці і з пасады старшыні грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы".*

*Праўда, не зараз, а ў наступным годзе, калі будзе чарговы з'езд аб'яднання.*

"Народная Воля" пацікавілася, як Алена Анісім успрыняла адмову ў рэгістрацыі.

– Усё, што робіцца, – да лепшага! – *адказала Алена Анісім*. – Цяпер я буду больш свабодная ў сваіх дзеяннях і ў сваіх ацэнках. Зараз усе абмежаванні зняты. Ну і час, які вызваліўся, спадзяюся, будзе патрачаны не ўхаластую.

**– Вы крыху засмучаны такім паваротам падзей?**

– Я чакала гэтага рашэння. Адчувала, што мяне не зарэгіструюць. І таму падрыхтавала сама сябе, перагарэла ўжо ўсё ўнутры. На сённяшні дзень я не выглядаю разгубленай.

Назапасілася шмат спраў па Таварыстве беларускай мовы, бо дэпутацкая праца, калі яе робіш сумленна, аднімае шмат часу і сіл. Таму пакуль я змагу больш намаганняў накіроўваць на развіццё арганізацыі. Тым больш што праз год у нас павінен быць з'езд, і трэба думаць пра змену кіраўніцтва.

**– Вы вырашылі сысці з пасады кіраўніка ТБМ?**

– Так. Трэба даваць дарогу маладым і спрыяць, каб моладзь прыходзіла ў арганізацыю. Ніякай сенсацыі тут няма. Гэта нармальныя працэсы, і трэба быць гатовым да любых змен. Лепш, канешне, калі гэтыя змены будуць станоўчымі. Але нават у адмоўных навінах трэба бачыць станоўчае. Гэта жыццё, і яно працягваецца, нягледзячы ні на што!

**Марына КОКТЫШ.**



## Юрый ІВАНОЎСКІ: «Для мяне гэта не трагедыя...»

Па Стаўбцоўскай акрузе №70 не зарэгістравалі не толькі дэпутата Палаты прадстаўнікоў апошняга склікання **Алену Анісім**, але і мясцовага фермера **Юрыя ІВАНОЎСКАГА**, які раней крытычна ставіўся да працы Алены Мікалаеўны. Зараз яны сябры па няшчасці...

– Мая ініцыятыўная група сабрала 1077 подпісаў, – кажа кіраўнік фермерскай гаспадаркі. – Я асабіста іх збіраў, кантраляваў увесь гэты працэс і быў упэўнены, што ў нас усё зроблена без памылак і парушэнняў.

І раптам аказалася, што людзі адмовіліся ад таго, што ставілі за мяне подпіс. Хто ж будзе супярэчыць сваім начальнікам, якія таксама прэтэндуюць на дэпутацкі мандат? Не буду называць канкрэтныя прозвішчы, аднак мястэчка ў нас невялікае, і ўсе ўсё адзін пра аднаго ведаюць. Так і атрымалася, што ў мяне "накалупалі" 27 подпісаў, якія як быццам несапраўдныя, што дазволіла мяне не зарэгістраваць.

**– Мяркуеце, што людзі, якія адмовіліся ад сваіх подпісаў, вас падставілі?**

– Чалавек клапоціцца найперш пра сябе і сваю працу, таму калі стаіць выбар паміж працоўным месцам і нейкім фермерам, які ідзе ў дэпутаты, то многія, натуральна, выбралі першае.

Але для мяне гэта не трагедыя. Алену Анісім таксама ж "завярнулі", хаця гэтага я ніяк не чакаў. На мой погляд, не зарэгістравалі самых моцных прэтэндэнтаў. Натуральна, ёсць крыўда за тое, што не ўдалося прайсці далей, але ў той жа час я зразумеў, што трэба працягваць змаганне, каб ажыўляць грамадства і распавядаць яму праўду.

**Алесь СІВЫ.**

## Гайдукевіч, Дзмітрыеў, Казлоў ідуць далей

Учора таксама стала вядома, што кандыдатамі ў дэпутаты не зарэгістраваны дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Ганна Канапацкая**, лідар руху «За Свабоду» **Юрась Губарэвіч**, журналістка, жонка кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2010 года Андрэя Саннікава **Ірына Халіп**, намеснік старшыні руху «За Свабоду» і памочнік дэпутата Ганны Канапацкай **Віктар Янчурэвіч**. Таксама не зарэгістраваны актывісты «Еўрапейскай Беларусі» **Андрэй Маркаў**, **Андрэй Войніч, Максім Вінярскі, Васіль Жораў.**

Прайшоў рэгістрацыю старшыня ЛДП **Алег Гайдукевіч**, які ў каментарыі «Народнай Волі» адзначыў, што яго акруговая камісія *«зарэгістравала і ад партыі, і па спісах». «Я сабраў больш за 3 тысячы подпісаў, і ўсе прызнаны сапраўднымі»,* – заўважыў Гайдукевіч.

Далей у якасці кандыдатаў удзельнічаць у выбарчай кампаніі будуць грамадская актывістка, сябра партыі БСДП (Грамада) **Ірына Вештард**, сябра АГП **Іван Крук,** лідар кампаніі «Гавары праўду» **Андрэй Дзмітрыеў**. І – амаль сенсацыя! – зарэгістраваны кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў выконваючы абавязкі старшыні АГП **Мікалай Казлоў**.

**Іван ШЫРОКІ.**

ПАЛІТКУХНЯ

## Ці пачуе суд беларускіх апазіцыянераў?

*На наступным тыдні ў Мінскім гарадскім судзе адбудзецца разгляд апеляцыйнай скаргі беларускіх апазіцыянераў на рашэнне суда Маскоўскага раёна Мінска аб скасаванні дамовы па аказанні паслуг па ахове грамадскага правапарадку падчас святкавання Дня Волі ў Кіеўскім скверы 24 сакавіка.*

У панядзелак 21 кастрычніка арганізатары акцыі **Ігар Барысаў, Юрый Губарэвіч, Вольга Кавалькова і Мікалай Казлоў** яшчэ раз паспрабуюць пераканаць суд пачуць іх довады наконт працы міліцыі падчас мерапрыемства ў Кіеўскім скверы.

Як паведамляла "Народная Воля", суд Маскоўскага раёна сталіцы 1 жніўня ў поўнай меры задаволіў іскавыя патрабаванні ГУУС Мінгарвыканкама да арганізатараў святкавання Дня Волі. Рашэнне вынесла суддзя Вольга Гусакова.

Міліцыя патрабавала спагнаць 6375 рублёў за перавышэнне колькасці ўдзельнікаў, плату за карыстанне чужымі сродкамі і пеню. Агульная сума іскавых патрабаванняў склала 8013 рублёў, да іх дадаліся судовыя выдаткі ў 400 рублёў.

– *Калі суд і зараз не прыслухаецца да нашых довадаў, нам давядзецца заплаціць агучаную суму – калі не памыляюся, на працягу 30 дзён з моманту ўступлення рашэння ў законную сілу*, – гаворыць Ігар Барысаў. – *Але паглядзім, што будзе!*

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

У СВЕЦЕ

## Першая вадародная аўтазапраўка адкрыецца ў Чэхіі ў 2020 годзе

У першым паўгоддзі 2020 года ў Чэхіі адкрыецца першая вадародная запраўчная станцыя, даступная кожнаму, паведамляе «Радыё Прага».

Праект рэалізуе кампанія Unipetrol, якая валодае сеткай АЗС Benzina. Далей, згодна з пілотным праектам, у 2020 годзе плануецца адкрыць яшчэ дзве запраўчныя станцыі з альтэрнатыўным палівам. У будаўніцтве вадароднай АЗС у Ржэжы возьме ўдзел Інстытут ядзерных даследаванняў, штаб-кватэра якога знаходзіцца ў гэтым горадзе.

Згодна з планамі Міністэрства прамысловасці, у 2023 годзе ў Чэхіі павінна быць ужо восем такіх аўтазаправачных станцый. Такая мера дасць магчымасць рушыць наперад у вырашэнні праблемы забруджвання атмасферы выхлапнымі газамі. Мяркуецца, што да 2023 года па чэшскіх дарогах будзе ездзіць ад 60 да 90 тысяч аўтамабіляў на вадародным паліве.

(belta.by.)

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Ідзе падпіска на лістапад-снежань і першае паўгоддзе 2020 года

Шаноўныя сябры!

Не крыўдуйце, што мы часта нагадваем пра падпіску на "Народную Волю". Зразумейце нас правільна: мы выдаём газету не дзеля таго, каб мець месца працы, а ў першую чаргу – каб даносіць да Вас **аб'ектыўную, праўдзівую інфармацыю**. Наша місія – падтрымка дэмакратычных каштоўнасцяў, абарона правоў чалавека, умацаванне грамадзянскай супольнасці, спрыянне станоўчым пераменам ва ўсіх сферах жыцця.

Незалежнае выданне "Народная Воля" не мае ніякіх прэферэнцый ад дзяржавы. Не адчуваецца падтрымкі ад бізнесменаў, фінансавых колаў. Усе спадзяванні, паважаныя чытачы, на Вас! Таму яшчэ раз нагадваем: поўным ходам ідзе падпіска на лістапад-снежань і першае паўгоддзе 2020 года.

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

**Рэдакцыя.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Алег ГАЛАВАЧ, бізнесмен: «Не хачу пра гэта казаць...»

21 кастрычніка суд Савецкага раёна Мінска мусіць вынесці прысуд яшчэ аднаму быламу намесніку міністра аховы здароўя, экс-гендырэктару кіруючай кампаніі холдынга «Белфармпрам» **Валерыю Шаўчуку** (ягоны былы калега, экс-намеснік міністра **Ігар Ласіцкі,** асуджаны за хабар на 6 гадоў і адбывае пакаранне ў калоніі «Віцьба»). Валерыя Шаўчука абвінавачваюць у атрыманні хабару і махлярстве.

Дзяржабвінаваўца запрасіў для былога чыноўніка пакаранне ў выглядзе 6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Валерый Шаўчук сваёй віны не прызнае. Тэлефон IPhone 5 і скураны партфель, якія яму, як сцвярджае следства, перадала кіраўнік прадстаўніцтва французскай кампаніі «Recordati» ў Беларусі **Ларыса Рубцова**, Шаўчук лічыць падарункам, таксама як і настольны набор з мармуру для канцылярскіх прылад, якія як быццам яму дасталіся за выдачу ліцэнзіі на права ажыццяўлення фармацэўтычнай дзейнасці кампаніі «Стымэнерджы» (узначальвае яе муж). *"Павінны быць яшчэ хоць нейкія доказы, акрамя слоў Рубцовай"*, – заяўляў у судзе Валерый Шаўчук.

Шаўчука таксама абвінавачваюць у тым, што ў кастрычніку 2016 года ён прыняў хабар ад заснавальніка ПГУП «Ледафарммед» **Алега Галавача**. Бізнесмен прывёз Шаўчуку на лецішча мэблю на 2748 рублёў: вітрыны, шафу, камоду. Шаўчук гэты эпізод увогуле адмаўляе.

Рубцова і Галавач ад сваіх паказанняў у судзе не адмовіліся. Пагадзіцеся, сітуацыя цікавая. Як яе ацэньвае Алег Галавач? Мы запыталіся ў яго пра гэта пасля судовага пасяджэння. Рэакцыя бізнесмена была стрыманай: *"Не хачу пра гэта казаць... Прабачце"*.

Дарэчы, у адрозненне ад Рубцовай Галавачу выстаўлена абвінавачанне ў дачы хабару (ч.1 арт.431 КК РБ). Бізнесмену пагражае пакаранне штрафам, альбо папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў, альбо арыштам ці абмежаваннем волі на тэрмін да двух гадоў, альбо пазбаўленнем волі на тэрмін да пяці гадоў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ДАРЭЧЫ

## Уладзімір КАРАНІК, міністр аховы здароўя: «Спадзяюся, што складаны перыяд у холдынга скончыўся»

Валерый Шаўчук быў затрыманы 25 лютага і амаль дагэтуль пасада кіраўніка холдынга была свабоднай. У верасні «Белфармпрам» узначаліў **Сяргей Казакевіч.**

У яго няма медыцынскай адукацыі. Казакевіч у 1998 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт, у 2011-м – Акадэмію кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. З 2000-га і па 2011-ы працаваў у Беларускім дзяржаўным канцэрне па вытворчасці і рэалізацыі фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прадукцыі, з 2011-га – у Савеце Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, дзе апошнія два гады – з 2017-га па 2019 быў – начальнікам упраўлення арганізацыйнай і ідэалагічнай работы Сакратарыята Савета Рэспублікі .

Як адзначаецца на сайце медыцынскага ведамства, прадстаўляючы Андрэя Казакевіча калектыву «Белфармпрам», міністр аховы здароўя **Уладзімір Каранік** адзначыў, што Сяргей Анатольевіч – «дзяржаўнік» з вялікім вопытам кіравання і эканамічнай адукацыяй, зможа свежым поглядам паглядзець на ўсе структуры, сувязі і схемы.

– *Спадзяюся, што складаны перыяд у холдынга скончыўся. Зараз пачнецца цікавы перыяд. Патэнцыял у «Белфармпрама» вялікі,* – сказаў Уладзімір Каранік, звяртаючыся да калектыву. – *Толькі ад вас залежыць, ці будзе холдынг чымсьці фармальным альбо стане сапраўды магутнай сілай, якая, па-першае, забяспечыць сферу аховы здароўя якаснымі недарагімі сродкамі і, па-другое, пачне прасоўваць нашы інтарэсы на знешніх рынках. Таму што цяпер вы як экіпаж падводнай лодкі: альбо ўсплыве, альбо не.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



## Александр ФЕДУТА: Недетская боль

16 октября суд в Ушачах приговорил трех человек – мужчину и двух женщин – к 20 годам лишения свободы каждого.

Обвинение: изнасилование и распространение порнографии с участием несовершеннолетних. Бывший студент-программист коллекционировал интернет-файлы с изображением порно, а потом решился сам заняться их изготовлением и распространением. Следствием было доказано несколько эпизодов. В двух из них речь шла о совсем маленьких девочках, подвергшихся насилию... в присутствии собственных матерей. Одну из девчушек с согласия матери, получившей за это деньги, «сдали напрокат» также иностранному гостю.

Мерзко и больно становится даже тогда, когда ты думаешь об этом, а не то что садишься писать. Матери отдают своих детей насильнику, соразмеряя, что важнее – жизнь и здоровье детей или деньги. Деньги перевешивают.

17 октября (заметьте, на второй день после суда в Ушачах) Британская вещательная корпорация (знаменитая BBC) сообщила, что в ночь со среды на четверг в 38 странах мира были арестованы 337 человек, зарабатывавших на изготовлении и продаже через интернет детской порнографии. Среди них граждане Великобритании, США, Канады, России, Чехии, Германии, Испании, Саудовской Аравии, Объединенных Арабских Эмиратов. Создатель и владелец сайта, через который шла эта грязная торговля, 23-летний гражданин Южной Кореи Чон У Сон также находится в заключении.

Тот факт, что эти два события совпали по времени, свидетельствует: проблема вовсе не внутри нашей страны. Не знаю, пытались ли адвокаты обвиняемых в Ушачах списать всё на трудное материальное положение; наверное, и это фигурировало в их речах. Но ведь в списке раскрытой педофильской сети вполне благополучные страны. И вряд ли у арестованных там мужчин и женщин (преимущественно мужчин), явно принадлежащих при этом к различным национальностям и религиозным конфессиям, есть серьезные финансовые проблемы – при том что в принципе никакие финансовые проблемы не могут оправдать насилия над ребенком.

Дело, стало быть, не в экономической ситуации и не в степени демократичности того или иного государства. Что-то происходит в людях, в их умах и сердцах. Что-то сдвинулось в мире, причем основательно и уже давно. Что? Почему человечество не заметило и не хочет замечать этих перемен?

Взрослый человек, учительница, говорит ребенку:

– Я ударю тебя!

И держит в руках парту. Обычную, деревянную, которой четвероклассника можно даже убить – без особых усилий.

Люди рукоплещут фразе:

– Да я бы этому щенку голову оторвал!

«Щенку» при этом никак не более девяти лет. То есть – ребенок.

Бывший высокопоставленный чиновник, еще молодым отошедший от дел, получает срок за создание гомосексуального педофильского притона. Имена «клиентов» не оглашаются.

И – аргументы против принятия закона о домашнем насилии:

– Ничего, нас родители били, а мы вот выросли!

– Принятие такого закона противоречит нашим духовным ценностям!

Господа взрослые! Вы вообще понимаете, что говорите о детях? О величайшем счастье, которое дают нам природа и Бог?

В России есть человек, с которым я не согласен во всем, что касается политики. Зовут его Модест Колеров. Это создатель того самого, пресловутого и одиозного информационного агентства «Регнум». Трудно себе представить большего империалиста, чем Владимир Путин, но если вы представите его себе, то, скорее всего, это и будет господин Колеров. Сейчас он стал одним из лидеров движения за отмену моратория на смертную казнь применительно к тем, кто убивает детей или совершает против них акты насилия. Вызвано это было убийством в Саратове девятилетней девочки Лизы. И это – как раз тот случай, когда я с трудом нахожу слова, чтобы возразить Колерову, при том что сам являюсь убежденным противником смертной казни. Но тут – как быть-то?

У Достоевского в закатном его романе «Братья Карамазовы» есть сцена величайшего нравственного испытания главного героя, Алеши Карамазова, человека глубоко верующего, доброго, искреннего. Брат Иван, циник, скептик, атеист в душе, рассказывает Алеше историю о том, как барин, борзой собаке которого дворовый мальчик подбил лапу камнем, приказывает затравить этого мальчика собаками на глазах у матери.

– Что сделать с таким барином? – спрашивает Иван.

– Расстрелять, – ни минуты не раздумывая, говорит кротчайший Алеша.

Я не знаю, если говорить о суде в Ушачах, какой выбор между различными видами наказания был у прокурора и судьи. Думаю, что сама работа на таком процессе, по такому делу является невероятным стрессом. Нужно вникать в детали, страшные и омерзительные, переживая в умах и сердцах при этом ту недетскую боль, которую испытывали дети. Но я сочувствую им искренне.

И я не знаю, что можно сделать для того, чтобы хотя бы в одной стране, среднеевропейской по числу жителей, которые считаются образованными и толерантными, детям не приходилось бояться насилия. Ни физического, ни духовного. Боюсь, Бог не слышит наших молитв, если допускает такое.

ДУХОЎНЫ СВЕТ

# МІСІЯНЕР

*Гродзенец Руслан Яроцкі, які ўзначальвае пры Лаўрышскім манастыры валанцёрскі рух «Дзеці Афрыкі», ужо пяць разоў пабываў у Кеніі, куды дастаўляў гуманітарную дапамогу для праваслаўнай абшчыны. Далёкія падарожжы не толькі адкрылі для яго іншы кантынент, але і шмат у чым паўплывалі на светапогляд ужо дарослага чалавека.*



## Паехалі як прыватныя асобы, каб проста дапамагчы

Руслан Яроцкі – чалавек сярэдняга веку, як сам заўважае, яму каля сарака. Мае тэхнічную адукацыю, таксама скончыў Мінскую духоўную семінарыю. Жыццё складвалася так, што ўвесь час быў уцягнуты ў тыя ці іншыя сацыяльныя праекты. Хрысціянскае выхаванне і падштурхнула пяць гадоў таму паехаць у Афрыку з гуманітарнай місіяй.

– *Дабраславенне атрымаў ад настаяцеля Лаўрышскага манастыра, з якім вельмі пасябраваў і якому цалкам ва ўсім давяраў,* – распавядае Яроцкі. – *Ён уважліва выслухаў маю ідэю і сказаў, што варта паспрабаваць.*

Пяць гадоў таму Руслан і яго сябра, не з'яўляючыся прадстаўнікамі ніякай арганізацыі, накіраваліся ў Кенію з гуманітарнай дапамогай для праваслаўнай абшчыны. Перад гэтым яны звязаліся з Александрыйскім патрыярхатам і папрасілі паведаміць, каму патрэбна гуманітарная дапамога. Назвалі адрас дзіцячага прытулку, якім апякуецца праваслаўны святар айцец Мяфодзій.

– *Мы ўжо ведалі, што ў Афрыцы шмат дзяцей без бацькоў, нізкі ўзровень жыцця, галеча, хваробы, войны, СНІД, бандытызм...* – пералічвае Руслан.

У якасці гуманітарнай дапамогі валанцёры везлі грошы, каб на месцы, пабачыўшы рэальныя патрэбы, іх скарыстаць. Частку фінансаў складалі ўласныя зберажэнні, астатнія сабралі неабыякавыя людзі: святары, прадпрымальнікі і проста вернікі розных канфесій.

– *Калі казаць пра суму, то гэта было некалькі тысяч долараў,* – удакладняе Руслан. – *Канешне, было трохі страшнавата, бо Афрыка зусім невядомая для нас, далёкая, але я нават прыблізна не ўяўляў, з чым на самай справе давядзецца сустрэцца.*

Ужо ў наступныя паездкі акрамя сабраных грошай везлі ў дзіцячы прытулак школьныя прыналежнасці, адзенне, абутак. Руслан распавядае, што там гэта можна таксама набыць, але ў людзей няма на што.

– *Сродкі, якія збіраюць нашы валанцёры для дапамогі дзецям Афрыкі, гэта хутчэй стыхійныя ахвяраванні, але за некалькі гадоў дзейнасці гэтая дабрачыннасць перарасла ў сістэму,* – тлумачыць Яроцкі. – *Цяпер ужо многія людзі, пабачыўшы нашу дзейнасць на здымках і відэа, самі пытаюцца, калі мы паедзем туды наступным разам.*

## «Толькі там зразумеў, у якой краіне я жыву...»

Першыя ўражанні ад Кеніі былі вельмі моцныя.

– *Уявіце сабе, што такія базавыя рэчы, як вада, святло, ежа, медыцынская дапамога, для вельмі вялікай колькасці людзей у гэтай краіне з'яўляюцца недасягальнымі,* – распавядае Яроцкі. – *Я ўпершыню пабачыў, як тысячы дзяцей па-сапраўднаму галадаюць, ядуць раз у дзень пахлёбку на вадзе. Многія ніколі не каштавалі цукерак, жывуць у трушчобах, паўсюль бруд і смецце, у многіх гарадах каналізацыя адкрытага тыпу, паўсюль антысанітарыя...*

Праўда, ужо на суседняй вуліцы можна было пабачыць шыкоўныя вілы, салоны з самымі дарагімі аўто, і на зямлі, калі яна табе належыць, аказваецца, можна атрымліваць тры ўраджаі ў год. Але ўсё гэта не для тых мільёнаў бедных людзей, якія жывуць у аддаленых паселішчах альбо ў трушчобах.

Паводле аповеду валанцёра, ён толькі там зразумеў, у якой цудоўнай краіне жыве. Згадвае: стала сорамна за тое, што раней наракаў на сацыяльны стан, недахоп сродкаў, стары аўтамабіль, высокія цэны ў крамах. У Кеніі на ўсё гэта паглядзеў іншымі вачыма.

## «Мы імкнёмся дапамагаць тым, хто насамрэч дзейнічае...»

Некалькі паездак хлопцаў у Афрыку шмат чаму навучылі. Да прыкладу, многія прадпрымальныя афрыканцы спрабуюць зарабляць на гуманітарнай дапамозе з іншых краін. Дзеля гэтага робяць сайты, размяшчаюць на іх здымкі з галоднымі схуднелымі дзецьмі і просяць накіроўваць дапамогу на канкрэтны рахунак. У выніку атрымліваюць і выкарыстоўваюць грошы ў сваіх карысных мэтах.

– *У дзіцячым прытулку айца Мяфодзія 175 дзетак-сірот. І ён увесь час круціцца, каб накарміць іх, апрануць, даць адукацыю, піша лісты ў Амерыку і Еўропу з просьбай аб дапамозе. Акрамя гэтага, у яго шматдзетная сям'я, ён руплівa працуе на зямлі, каб было што есці, і яго дзеці харчуюцца тым, чым і іншыя,* – распавядае Яроцкі. – *Гэта ў нас святар жыве за кошт прыходу, а там увесь прыход жыве за кошт святара.*

Менавіта такім святарам валанцёры з Беларусі імкнуцца дапамагаць у першую чаргу.

– *Там таксама розныя людзі: адныя сядзяць і чакаюць, калі добры дзядзька прыйдзе і накорміць,* – кажа Руслан. – *А ёсць тыя, хто сам напаўгалодны, але імкнецца бясплатна выкладаць дзецям у прытулках, чамусьці навучыць, шукаюць гранты, каб накіраваць іх у каледж, аказаць хоць нейкую дапамогу. Ёсць святары, якім удалося атрымаць дапамогу, набыць за гэта зямлю, прабіць свідравіны і весці гаспадарку, што цалкам змяняе сітуацыю.*

А вось яшчэ адзін прыклад. На ўскрайку горада Накуру, дзе мноства трушчоб, адзін са святароў выходзіць уначы на вуліцу і корміць дзяцей. Справа ў тым, што ўдзень яны хаваюцца, а ўвечары, калі няма паліцыі, вылазяць са сваіх хованак і шукаюць харчаванне. Побач са сваёй царквой ён заняўся будоўляй прытулку для такіх дзяцей і моладзі. У планах беларускіх валанцёраў дапамагаць і гэтаму бацюшку.

– *Там святар больш, чым святар,* – разважае валанцёр. – *Ён не столькі служыць культу, колькі сваім людзям. Уся яго дзейнасць скіравана на тое, каб дапамагчы ім выжыць. У яго няма магчымасці знайсці вялікае ахвяраванне, але ўдалося сёння недзе атрымаць паўмяха бульбы, трохі нейкага фаршу, качан-другі капусты – зварыў, накарміў людзей, і сам паеў разам з імі,* – канстатуе Яроцкі.

Руслан распавядае, што напачатку афрыканцы ўспрымалі іх, як багатых амерыканцаў, якія могуць проста прыехаць і выдаць са сваёй шчодрасці палову заробку ім у дапамогу. Але гродзенскія валанцёры распавядалі святарам пра свае заробкі, пра тое, як жывуць людзі ў Беларусі, як збіралі сродкі на тое, каб прыехаць у Афрыку і дапамагчы бедным.

– *Там, у Кеніі, людзі ўдзячны любой дапамозе. А калі яны зразумелі, што я не алігарх, не бізнесмен, што мне даводзіцца з цяжкасцямі збіраць грошы, іх удзячнасць стала ў разы заўважней,* – падкрэслівае Яроцкі.



## Пражытачны мінімум – 1 долар

Руслан быў вельмі ўражаны тым, што пражытачны мінімум сям'і ў Кеніі – 1 долар на дзень. На гэтыя грошы можна купіць крупы, і ўжо лічыцца, што сям'я не будзе галадаць. Есці мяса, са скрухай заўважае валанцёр, людзям там даводзіцца вельмі рэдка.

– *Але вось што цікава: я ніколі не бачыў, каб там нават галодныя дзеці накідваліся на яду,* – дзеліцца назіраннямі Руслан. – *Яны вельмі стрыманыя, нават галодныя дзеці глядзяць, каб той чалавек, які побач, мог таксама паесці, каб яму хапіла яды. Такое ні з чым не параўнальнае захаванне ўзаемаапекі. Гэта вельмі ўражвае.*

Яроцкі распавядае, што кенійцы шмат у чым яго здзівілі, і найбольш – сваёй зычлівасцю і адкрытасцю.

– *Уявіце, што вы прыехалі ў Кенію і ў вас пакуль ні тэлефона, ні грошай мясцовых, вас нават ніхто не сустрэў. І тут любы кеніец можа пазычыць вам тэлефон, сам пагаворыць з тым, хто павінен быў сустрэць, патлумачыць, дзе вы знаходзіцеся.*

З другога боку, адзначае Яроцкі, там шмат людзей са зброяй, і нарвацца можна на розных. Але, у прынцыпе, кенійцы вельмі зычлівы народ.

## «Дапамога ёсць, але маштабы галечы такія...»

За пяць гадоў працы беларускіх валанцёраў у Кеніі геаграфія дапамогі дзецям Афрыкі пашырылася. Акрамя прытулку айца Мяфодзія яны імкнуцца дапамагаць яшчэ аднаму – у вёсцы Гіль-Гіль, дзе пры праваслаўным прыходзе святар апякуецца дзецьмі-інвалідамі. А яшчэ дзейнічаюць у прыгарадзе Найробі, дзе знаходзяцца другія па велічыні ў свеце трушчобы.

– *Як мне здаецца, гэта самае пякельнае месца на зямлі. Акрамя невыноснай антысанітарыі, СНІДу, наркаманіі, малярыі, іншых хвароб, высокай смяротнасці гэта яшчэ месца, дзе бацькі аддаюць сваіх дзяцей на панэль, каб можна было выжыць,* – з горыччу распавядае Руслан.

У самой Кеніі існуе мноства самых розных рэлігійных і грамадскіх фондаў, якія займаюцца дапамогай людзям, што жывуць у трушчобах. Але, паводле слоў беларускага валанцёра, маштабы галечы такія, што нават цяжка сабе ўявіць.

## «Адтуль я вярнуўся іншым чалавекам»

Мой суразмоўца кажа, што калі мець на ўвазе прыроду, то Кенія вельмі прыгожая краіна. Але неўладкаванасць перашкаджае многім людзям нармальна жыць, бо эканоміка слабая, у засушлівых рэгіёнах няма вады і не развіта сельская гаспадарка. Пасля першай гуманітарнай акцыі Руслан быў упэўнены, што больш не паедзе туды. Але быў і другі, і трэці, і пяты раз...

– *У мяне там з'явілася ўсведамленне таго, што нехта ўсё ж павінен дапамагаць тым людзям,* – распавядае валанцёр. – *Я чалавек сярэдняга дабрабыту, у мяне няшмат сваіх грошай, але ў Кеніі я зразумеў, наколькі прыемней, калі ты не атрымліваеш, а некаму даеш, дапамагаеш...*

Ён ўзгадвае адзін эпізод, калі ўдалося кантрабандным шляхам правезці некалькі каробак беларускіх цукерак. І калі за імі выстраіліся 175 дзетак і кожнаму далі па адной…

– *У мяне і сёння ўваччу іх твары – такая на іх была радасць!* – з пачуццём успамінае Руслан.

Яроцкі заўважае, што шмат хто ў Беларусі пытаецца, навошта ён ездзіць у Афрыку, калі суайчыннікі таксама маюць патрэбу ў дапамозе. Адказ такі: «Відаць, Бог захацеў, каб я апынуўся ў Афрыцы».

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**Фота аўтара і з архіва Руслана Яроцкага.**

СУД

## «У судовай зале Зміцер мне прапанаваў выйсці за яго замуж…»

*Учора ў Мінскім гарадскім судзе пачаўся разгляд крымінальнай справы сацыяльнага актывіста Зміцера Паліенкі.*

Працэс павінен быў пачацца яшчэ 25 верасня, але ў апошні момант стала вядома, што суддзя захварэў і суд пераносіцца на нявызначаны тэрмін. У выніку перанеслі аж на тры тыдні.

*"У Мінску пачынаўся "Мінскі дыялог", у сталіцу з'язджаліся высокія еўрапейскія госці, таму, магчыма, беларускія ўлады і не захацелі, каб на форуме задавалі нязручныя пытанні па гэтай рэзананснай справе,* – выказаў сваё меркаванне **Вячаслаў Касінераў** – паплечнік Паліенкі. – *Тым больш што беларускія праваабаронцы і "Міжнародная амністыя" афіцыйна агучылі, што справа мае палітычную афарбоўку. Таму не выключаю, што яе наогул могуць максімальна змякчыць".*

Зміцера Паліенку абвінавачвалі па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэкса: ч.3 арт.339 – распыленне пярцовага газу ў твар мужчыне на лесвічнай пляцоўцы; арт.341 – нанясенне графіці ў Курапатах і на будынак на вуліцы Ахоцкай; ч.1 арт.130 – распальванне варожасці да супрацоўнікаў міліцыі ў размешчаным у інтэрнэце відэароліку; арт.369 – абраза міністра (былога) МУС Ігара Шуневіча ў відэароліку.

І пачаўся суд абсалютна нечакана. Было абвешчана, што ён пройдзе ў закрытым рэжыме, пасля чаго Паліенка ў знак пратэсту спрабаваў парэзаць сабе вены. Маладому чалавеку аказалі медыцынскую дапамогу, а праз нейкі час працэс зрабілі ўжо адкрытым. Да таго ж стала вядома, што суд будзе разглядаць абвінавачванне Паліенкі толькі за распыленне пярцовага газу, а абвінавачванні па іншых артыкулах зняты, бо ад іх адмовілася пракуратура.

*"Акурат у судовай зале, з клеткі, Зміцер мне прапанаваў выйсці за яго замуж,* – распавяла "Народнай Волі" нявеста актывіста **Наста ГУСЕВА**. – *Я, натуральна, пагадзілася, усё гэта адбывалася пад апладысменты.*

*Хаця рашэнне пажаніцца мы прынялі яшчэ раней. І зробім гэта ў любым выпадку, нават, калі Зміцера па рашэнні суда адправяць за краты. Спачатку хацелі пабрацца шлюбам у калоніі, але не выключана, што зробім гэта раней – у СІЗА на Валадарскага. Калі будзе абвінаваўчы прысуд, то Дзіма яшчэ будзе каля дзесяці дзён знаходзіцца ў ізалятары".*

Сёння судовы працэс над Паліенкам працягнецца.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

АКТУЛЬНАЯ ТЕМА

Ольга ПОЛИТИКО,
депутат Палаты представителей:

## «Следующим этапом, думаю, будет включение службы в армии в страховой стаж…»

На прошлой неделе депутаты Палаты представителей приняли в первом чтении законопроект по вопросам зарплаты бюджетников. Новым документом предусмотрен ряд изменений, он упраздняет около 300 постановлений Министерства труда и соцзащиты. Одно из новшеств – включить срок альтернативной службы в стаж работы в бюджетных организациях. Это предложение внесла депутат, заместитель председателя Постоянной комиссии по промышленности, топливно-энергетическому комплексу, транспорту и связи **Ольга Политико**. Она также предлагала включить в этот стаж период срочной службы в армии независимо от того, в какой организации до призыва в армию работал призывник – в бюджетной или частной. Но это предложение депутаты не поддержали, и оно не попало в законопроект.

«Чем важны ожидаемые изменения в Закон «Об альтернативной службе»?» – обратились мы с вопросом к Ольге Политико. Число солдат-альтернативщиков в белорусской армии очень маленькое. Кроме того, данное изменение никак не повлияет на минимальный страховой стаж, необходимый для назначения трудовой пенсии, а его, как известно, в нашей стране увеличили: с 2025 года он составит 20 лет.

– Все правильно, данное новшество страховой стаж не затрагивает, – поясняет Ольга Политико. – Оно касается только стажа работы в бюджетной организации. И это тоже важно.

В системе оплаты труда бюджетников предусмотрена доплата за стаж работы. Чем дольше человек работает в бюджетной сфере, тем выше может быть доплата за это, а следовательно, и выше зарплата. Данное положение в оплате труда бюджетников сохранится и после принятия нового законопроекта. Но стоит отметить, что и сейчас в этот стаж включается срочная служба в армии тех, кто уходил служить из бюджетной организации. Например, призвали учителя в армию, и тот год, что он служил, ему засчитывается в стаж работы в бюджетной организации. В новом законе теперь в этот стаж будет включаться любая военная служба.

**– Это как?**

– То есть человек прослужил 25 лет в армии, а потом пришел работать в бюджетную организацию. Военнослужащему эти 25 лет засчитаются как стаж работы в бюджетной организации. Но когда готовился законопроект, почему-то забыли об альтернативной военной службе. На мой взгляд, это выглядело несправедливо: если человек исполняет долг перед государством, то и государство должно гарантировать единые подходы. Поэтому я и предложила предусмотреть зачет периода прохождения альтернативной службы в стаж работы в бюджетных организациях. И мое предложение поддержали. Тем более у нас срок альтернативной службы больше, чем срочной воинской, – 3 года, а для ребят с высшим образованием – 2 года. Обычная срочная служба – это год-полтора.

**– Безусловно, поправка важная, но сегодня актуальнее не терять страховой стаж. И Министерство обороны вроде как добивается включения срочной службы в армии в этот стаж, поддержали инициативу и официальные профсоюзы. Но депутаты почему-то молчат. На ваш взгляд, надо вернуть службу в армии в страховой стаж?**

– Думаю, это будет следующий этап. Этот вопрос действительно многих волнует, он на слуху. Министр обороны говорил о том, что уже разработан целый комплекс мер по повышению престижа срочной военной службы, и там в том числе есть и вариант включения срочной службы в страховой стаж. Сейчас прорабатываются механизмы, готовятся документы. Надо понимать, что включение срока армейской службы в стаж потребует в будущем дополнительных расходов, возможно, из бюджета будут уплачиваться какие-то отчисления в фонд соцзащиты за солдат-срочников. В общем, механизм какой-то будет...

**– Но насколько это будет справедливым, если службу в армии вернут в страховой стаж, а декрет, учебу в университете – нет.**

– Мне кажется, это абсолютно разные вещи. Тут принципиальная разница. Служба в армии – это воинский долг, хочешь ты или нет – обязан служить. Все остальное – это воля человека, его выбор…

**– Ольга Сергеевна, как думаете, новый закон успеет принять еще ваш созыв или его будет дорабатывать новый состав парламента?**

– Законопроект пройдет обязательно на этой сессии, потому что он должен вступить в силу с 1 января 2020 года. Выборы в Палату представителей пройдут 17 ноября, и не позднее, чем через месяц, новый созыв должен начать свою работу. Это уже будет декабрь. Кроме того, после двух чтений в Палате представителей закон утверждает Совет Республики. Так что, возможно, этот законопроект дорабатывать нам.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ПАДЛІЧЫЛІ

## Больш за 220 тысяч грамадзян Беларусі маюць ва ўласнасці дзве кватэры і больш.

*Большасць з іх – жыхары сталіцы (67 тысяч).*

*У Гомельскай вобласці такіх каля 35 тысяч, у іншых абласцях – 20–28 тысяч. Пра гэта паведаміў начальнік галоўнага ўпраўлення падаткаабкладання фізічных асоб Міністэрства па падатках і зборах* ***Міхаіл Расолька****.*

Народная Воля http://www.nv-online.info
18 КАСТРЫЧНІКА 2019 г.

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Таямніца прафесара Лепешава

У прафесара мовазнаўства Івана Лепешава была адна таямніца, пра якую ён нікому не расказваў. Пра яе не ведалі нават бліжэйшыя сябры і калегі-навукоўцы з Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, дзе Іван Якаўлевіч адпрацаваў больш за сорак гадоў. Таямніца тая хавалася пад кароткай абрэвіятурай ГУЛаг. Калі верыць даведніку Леаніда Маракова «Рэпрэсаваныя настаўнікі Беларусі» (2007), будучы навуковец трапіў у савецкі лагер у 1949 годзе.

Памятаю, пабачыўшы там персаналію «Іван Лепешаў», я ажно засумняваўся – а ці гродзенскі мовазнавец маецца на ўвазе? Бо неяк не спалучаліся яны – паспяховы доктар філалогіі, аўтар шматлікіх кніг і слоўнікаў, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, узнагароджаны ордэнам і медалямі, і ГУЛаг. Да таго ж біяграфічная нататка пра Лепешава, асуджанага ў 1949-м і рэабілітаванага ў 1963-м, заканчвалася няпэўна – «далейшы лёс невядомы». Так нібыта і пазначана ў асабовай справе №8034п, што зберагаецца ў архіве КДБ па Гродзенскай вобласці.

Справа ляжала на паліцы, а быты гулагавец з «невядомым лёсам» штодня хадзіў міма таго архіва на працу.

Аднойчы я паказаў Івану Якаўлевічу тую таямнічую персаналію. Ён неяк насцярожана на мяне зірнуў і адказаў, як і належала знаўцу фразеалогіі, устойлівым выразам: «Бач, нават яны ў трох соснах заблукалі». І было незразумела, хто заблукаў – Леанід Маракоў ці КДБ, які «згубіў» свайго падапечнага ў сценах ГрДУ...

Усіх, хто ведаў Івана Лепешава, уражвала яго працаздольнасць. За свае пражытыя амаль 90 гадоў ён толькі 42 дні (!) паспеў пабыць пенсіянерам. Больш за паўстагоддзя Іван Якаўлевіч учытваўся ў мову, прасейваў «адзінага слова дзеля тысячы тонаў слоўнай руды». І пачутае, вычытанае, прасеянае – занатоўваў, кампанаваў у слоўнікі фразеалагізмаў. У сваёй гродзенскай кватэры з гонарам паказваў мне рукапісную картатэку на 100.000 карак (камп'ютар прафесар так і не засвоіў). Мабыць, не было такога пісьменніка, у якога ён не адшукаў бы крылатых выразаў.

7000 фразеалагізмаў зафіксавана і растлумачана прафесарам Лепешавым. Тут яму роўні не было. Яго слоўнікі часам крытыкавалі за частыя запазычанні з рускай мовы. Памятаю, пра гэта мы неадночы гаварылі з яшчэ адным знаным гродзенскім мовазнаўцам Паўлам Сцяцко, які ўсё жыццё змагаецца за чысціню і самабытнасць беларускай мовы. Я даводзіў, што слоўнікі Лепешава фіксуюць сучасны стан мовы – з усімі яе хваробамі і адхіленнямі ад нормы. Бо з моваю як з чалавекам – каб паставіць дыягназ, неабходна ведаць гісторыю захворвання.

Сваю галоўную працу – двухтомны «Слоўнік фразеалагізмаў» (2008) – Іван Лепешаў падараваў мне з такім аўтографам: «Шаноўнаму Міхасю Скоблу з найлепшымі пачуццямі падпісваю гэты словазбор, з якога, на жаль, цэнзары выкінулі 15 аўтараў (і вас у тым ліку)».

Лепешаўскі слоўнік сцэнзуравалі ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя». Спачатку з яго былі выкасаваны прозвішчы «нячэсных» пісьменнікаў, у лік якіх трапілі Святлана Алексіевіч, Наталля Арсеннева, Ларыса Геніюш, Масей Сяднёў, Уладзімір Някляеў, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Арлоў, Вінцэсь Мудроў, Барыс Пятровіч... Аўтары выкасоўваліся, а цытаты з іхніх твораў часам заставаліся. Не акадэмічны слоўнік атрымаўся, а зборнік ананімак. Потым са слоўніка былі выкраслены непажаданыя перыядычныя выданні – часопіс «Дзеяслоў» і газеты «Народная Воля», «Наша Ніва», «Наша Слова», «Свабода», беластоцкая «Ніва».

Трапілі ў разрад крамольных і наступныя фразеалагізмы: «*Архіпелаг ГУЛаг* – канцэнтрацыйныя лагеры ў перыяд сталінскага таталітарызму»; «*завезці да белых мядзведзяў* – адправіць у канцлагеры на поўначы Расіі»; «*чырвоны памешчык* – старшыня калгаса як гаспадар з неабмежаванай уладай»; «*кактэйль Молатава* – бутэлька з гаручай сумессю»; «*абкласці чырвонымі сцяжкамі* – стварыць скрайне неспрыяльныя ўмовы для чыёй-небудзь дзейнасці»...

Кожны з нас безліч разоў чуў гэтыя ўстойлівыя выразы. Але іх няма ў слоўніку Лепешава. А ўсяго адтуль было выкінута больш за 500 (!) цытат. Дзясяткі і дзясяткі фразеалагізмаў засталіся без пацвярджэння. Скалечаны слоўнік выйшаў у свет, не прынёсшы аўтару заслужанай радасці. Да апошніх сваіх дзён аўтар марыў перавыдаць яго ў першапачатковым выглядзе. Не ўдалося...

Падчас нашай апошняй сустрэчы Іван Лепешаў скрушна ўздыхаў: «З беларушчынай горай было толькі за царызмам». Уздыхаў і зноў схіляўся над сваёй старасвецкай картатэкай. Доктар філалогіі з гулагаўскім стажам, чорнарабочы на мовазнаўчай ніве.

Шчыра кажучы, прызнанне пра скалечаны слоўнік я выцягваў з яго, як на допыце. Не хацеў прафесар кранаць гэтай душэўнай раны, балела яна яму несціхана.

А ці паспеў хто распытаць у яго пра ГУЛаг? Ці караценькі запіс з асабовай справы № 8034п так і застанецца адзіным няпэўным сведчаннем той таямнічай гісторыі, якую прафесар забраў з сабой у лепшы свет? Гэтымі днямі яму споўнілася б 95...

«Народная Воля» в Facebook
www.facebook.com/nv.online.info
в VKontakte www.vk.com/nvonlineinfo

ГРОШЫ

## Чаму беларусы палюбілі рубель?

*У апошні час людзі аддаюць перавагу рублёвым дэпазітам, а валютныя ўклады змяншаюцца.*

На 1 кастрычніка аб'ём рублёвых укладаў беларусаў складаў 4 млрд 754 млн рублёў, а валютных – 6 млрд 207 млн долараў. Гэта адпаведна на 97 млн рублёў больш, чым у верасні, для ўкладаў у нацыянальнай валюце і на 2,9 млн долараў менш для валютных.

Эканаміст Барыс Жаліба тлумачыць гэтую тэндэнцыю так: *"Валютныя ўклады зараз для насельніцтва практычна не прыносяць ніякага прыбытку, бо 2 працэнты гадавых – гэта мізэр. Натуральна, больш прывабнымі застаюцца рублёвыя дэпазіты пад 12–13 працэнтаў, тым больш што беларускі рубель апошнім часам не дэвальвуецца і застаецца стабільным. Палітыка Нацбанка такая, што рублёвыя ўклады нават з улікам інфляцыйных працэсаў усё роўна застаюцца больш выгаднымі".*

У той жа час эканаміст папярэджвае, што на ўсялякі выпадак зберажэнні трэба захоўваць і ў рублях, і ў валюце.

*"Лепш перастрахавацца"*, – кажа ён.

Сяргей НІКАНОРАЎ.


*Сёння ў Беларусі вучыцца каля **23.000** замежных грамадзян з 108 краін.*

СЛЫШАЛИ?

## Белорусскому независимому профсоюзу вернули мобильники и ноутбуки

*Технику продержали больше двух лет*

Офисную технику у БНП забрали во время обыска в офисе, который сотрудники Департамента финансовых расследований провели 2 августа 2017 года в рамках уголовного дела против руководителей Белорусского профсоюза радиоэлектронной промышленности (РЭП) Геннадия Федынича и Игоря Комлика. Добавим, что конфисковали тогда упомянутую технику, несмотря на то, что никто из БНП по данному делу в качестве подозреваемых не проходил.

И вот спустя более двух лет, 16 октября 2019 года, лидер БНП Максим Позняков и секретарь-казначей Снежана Гринцевич смогли забрать из Управления Следственного Комитета по г.Минску два мобильных телефона, четыре ноутбука, два жестких диска.

Как сообщили в БНП, в СК остались еще три жестких диска и восемь флэш-карт. В Белорусском независимом профсоюзе надеются, что вернут и эти носители.

Лариса НАСАНОВИЧ.

ДЗІКУНСТВА!

## Вясковец абліў бензінам жонку за тое, што не пайшла ў краму па гарэлку

Здарэнне адбылося ў вёсцы Квасевічы Івацэвіцкага раёна.

Як паведамляе сайт Брэсцкай абласной міліцыі, так муж адрэагаваў на адмову жонкі пайсці ў краму па гарэлку. Пацярпелая выклікала на яго міліцыю.

"Жанчына растлумачыла міліцыянерам, што яе муж з раніцы патрабаваў ад яе схадзіць у краму і купіць бутэльку гарэлкі. На чарговую яе адмову мужчына раззлаваўся, схапіў палімерную бутэльку з бензінам і стаў палівацъ гаспадарчае збудаванне і гараж. Калі ўбачыў, што жанчына патэлефанавала ў міліцыю, кінуў у яе бок бутэльку з вадкасцю і абліў яе", – паведаміла афіцыйны прадстаўнік УУС **Наталля Сахарчук.**

Мужчыну, які быў напаўп'ітку, затрымалі. Следчыя збіраюцца даць прававую ацэнку яго дзеяння́м.

## Вырашыў саперніка правучыць нажом

Цяпер раўнівцу з Маладзечна пагражае да 8 гадоў пазбаўлення волі, а ахвяра яго рэўнасці трапіла ў рэанімацыю.

Днямі ў адным з прыватных дамоў Маладзечна дзве пары сабраліся на вечарку з чаркай і скваркай. Спачатку ўсё ішло мірна і нават весела, але пасля чарговай чаркі адзін з мужчын палічыў, што сабутэльнік аказвае яго сяброўцы занадта відавочныя знакі ўвагі. Паміж мужчынамі завязалася сварка. Канчаткова высветліць адносіны вырашылі ў двары дома без прысутнасці жанчын. Магчыма, усё скончылася б узаемнымі абразамі і кухталямі, але ў 40-гадовага раўнівца аказаўся з сабой нож. Ён двойчы ўдарыў ім саперніка, цяжка параніўшы таго ў паяснічную вобласць і жывот.

У выніку 56-гадовы жыхар Маладзечна трапіў у рэанімацыю, а зламысніка затрымала міліцыя, ён заключаны пад варту. Распачата крымінальная справа па ч.1 арт.147 КК Рэспублікі Беларусь (наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання). Як высветліла экспертыза, у крыві раўнівца было больш за тры праміле алкаголю.

Ларыса НАСАНОВІЧ.

ДИСКУССИЯ

# КАКИЕ УЧИТЕЛЯ – ТАКИЕ И УЧЕНИКИ

Я, будучи в прошлом учителем, решил откликнуться на предложение редакции обсудить проблемы системы образования. Слов нет, «взаимоотношение учителей, учеников и их родителей далеко не лучшее». Вот об этом я и хочу поговорить.

Мои бывшие ученики, люди уже пенсионного возраста, однажды собрались отметить 50-летие со дня окончания школы. Один из них, бывший школьный отличник, задал мне вопрос: что бы я сказал начинающим педагогам, исходя из своего жизненного и педагогического опыта? Я ответил не задумываясь, потому что это был плод моих постоянных размышлений на эту тему. «Самое главное, – сказал я, – это совершенное владение предметом преподавания и личные отношения с учащимися. Работать нужно не только с классом на уроке, но и общаться с детьми вне уроков, выстраивать личные отношения».

Когда я следовал этим правилам, никаких проблем с дисциплиной на уроках не было, именно эти ученики меня до сих пор помнят, и мы с удовольствием встречаемся.

Приведу несколько примеров. В одном из девятых классов за последней партой сидел заводила, который мог запросто сорвать урок. Среди сверстников он был кем-то вроде криминального авторитета во взрослой жизни. Я знал его отца, старшего брата. Однажды я пригласил его в лабораторскую для беседы. При этом я не прибегал ни к каким педагогическим нравоучениям, а просто поговорил о его родных, о том, с каким уважением я отношусь к ним. И это была правда, так как они были добропорядочными людьми, простыми тружениками.

После этого парень не только перестал мешать мне на уроке, а даже, наоборот, мог приструнить какого-нибудь балбеса.

Или другой пример. Однажды во время школьных каникул я организовал туристический поход по местам боевой и трудовой славы. Маршрут продолжительностью две недели был зарегистрирован по третьей категории сложности и давал право присвоения третьего спортивного разряда по туризму. В этот сложный поход я пригласил только так называемых трудновоспитуемых. И только один совершенно не относящийся к этой категории ученик девятого класса сам напросился с нами. К слову, ныне это заведующий кафедрой физики БГУ профессор Владимир Борисович Оджаев.

После похода эти трудные ребята стали моими помощниками в организации учебного процесса на уроках.

Возможностей для индивидуального общения много. Кому-то можно после уроков помочь по предмету, пообщаться в процессе кружковой работы, подготовки к олимпиадам.

Хорошие контакты налаживались у меня и с теми ребятами, которых я ежегодно готовил к районному, а иногда и областному туристическому слету.



Конечно, все это требовало больших затрат личного времени, и я это мог себе позволить вследствие затянувшейся холостяцкой жизни. Но, выбирая профессию педагога, надо понимать, что без этого просто нельзя.

Сегодня говорят: нету дороги – иди в педагоги. Престиж этой профессии резко упал. Особенно это касается естественных наук: чтобы стать студентом факультетов математики, физики, информатики педвуза, достаточно на тестировании набрать в два раза меньше баллов, чем на факультеты, готовящие международников, юристов, программистов, стоматологов. Очень заметна также феминизация системы образования. В школьных коридорах чаще услышишь «физица», чем «физик», «училка» – чем «учитель».

В шестидесятые годы нас, учителей физики, собрали на семинар. В заполненном классе сидели всего четыре «училки». А когда началась дискуссия о проблемах преподавания физики, то мне, молодому педагогу, показалось, что это не школьные учителя, а какие-то академики. Это стимулировало меня к самообразованию. И сегодня у меня на чердаке пылятся сотни научных, популярных, методических изданий.

Советская система образования была совершеннее нынешней, и статус учителя был выше. Например, все лабораторные работы в соответствии с программой были обеспечены необходимым оборудованием. А сегодня, когда я спрашивал у своей внучки, тогда ученицы минской гимназии, как они выполняли ту или иную лабораторную работу, оказывалось, что либо приборы были в одном экземпляре, либо вообще эксперименты «проводились» виртуально. Однажды, когда к ним на практику пришли две студентки педвуза, она попросила меня решить какую-то трудную задачу. Я решил и говорю: «Ты дополнительно проконсультируйся у практиканток». – «Дедушка, да ты что, они простой задачки решить не могут!» И это, возможно, не только их вина. Ведь студентам в педуниверситете вдалбливают (и чаще безуспешно) дифференциальные уравнения параболического вида, а школьные задачки остаются нерешенными.

И если сегодня у нас еще не умерла наука, более-менее успешно работают конструкторы, инженеры, технологи, то это отчасти заслуга еще советской системы образования. А дальше дела будут ухудшаться, ибо какие в школе учителя – такие ученики, такие впоследствии студенты, такие из них получатся преподаватели, ученые, конструкторы, инженеры, технологи, а значит, такими будут образование, производство, экономика.

Наглядный пример – Германия, успехи которой во многом определены высоким статусом учителя.

Конечно, на развитие образования нужны немалые средства. При формировании очередного бюджета их можно отстегнуть от других министерств и ведомств, например, от обласканных властью силовых структур. Ведь если в перспективе рухнет экономика, то не спасут и силовики.

Говоря о качестве работы учителя, хочу сравнить каждый школьный урок с мини-спектаклем, где и сценаристом, и режиссером, и актером выступает учитель. И если этот спектакль интересен, привлекает внимание зрителей – учеников, то вопросы дисциплины на уроке отпадают сами собой.

Человек отличается от животного только наличием сознания. Новорожденные и ребенок, и котенок, и тигренок в этом отношении совершенно одинаковы – сознание у них отсутствует. Но по мере роста у ребенка оно появляется и развивается, а у животных – никогда.

Борясь за дисциплину на уроке, учитель зачастую апеллирует к сознанию. Со старшими школьниками это имеет определенный эффект, так как многие из них уже нацелены на приобретение знаний. С младшими школьниками видом менее развитого сознания с этим труднее. Но для того и существуют науки педагогика и психология, защищены тысячи диссертаций и написаны тысячи учебных пособий на тему организации учебного процесса.

Физическое воздействие как способ наказания современная педагогика отрицает полностью. Но если заглянуть в историю, то раньше это было обычным явлением. Вспомните «Домострой», воспитание розгами. Это, конечно, перегибы, но для особей, в отношении которых призывы к сознанию бесполезны, был и положительный эффект. Не всякая мама может воздержаться, чтобы не шлепнуть свое непослушное чадо по определенному месту, не всякий глава семейства способен сдержать эмоции и не схватиться за ремень. И во взрослой жизни люди обычно не держат обиды за это на своих «предков». Но это родители. Для учителей же это, конечно, недопустимо, но срывы иногда происходят, и наша Фемида в отношении таких педагогов не столь строга, но даже жестока.

Приведу один пример. В Слуцком кадетском училище однажды заместитель директора, услышав от одного из воспитанников публичную грубую матерщину, не сдержался и ударил его. И сегодня этот очень добропорядочный человек пенсионного возраста, бывший военный, руководитель духового оркестра, сторонник дисциплины и порядка на три года заключен в колонию вместе с бандитами и прочими уголовниками. Вот чем закончилось его усердие по воспитанию подрастающего поколения. То есть учителям как бы дают понять: работайте, но не усердствуйте.

Кстати, о воспитании. Воспитание лишь временно стимулирует проявление одних качеств и сдерживает проявление других, но не меняет природу человека, его духовную сущность. Наглядный пример – религиозное воспитание в царской России. Оно при Николае II было на высоте. Случился большевистский переворот, и те, кто вчера стоял в церкви на коленях и крестился при виде священника, пошли взрывать храмы и расстреливать служителей культа.

В заключение позволю немного поговорить о строительстве коммунизма, ибо это, как ни странно, имеет косвенное отношение к теме разговора. Дело в том, что «призрак коммунизма бродит» в коридорах и кабинетах Министерства образования.

Возвращаясь в прошлое, напомню, что в 1961 году на XXII съезде КПСС была принята Программа строительства коммунизма, согласно которой в СССР к 1980 году должно быть построено коммунистическое общество, правда, с оговоркой «в основном».

Когда в середине шестидесятых я пришел работать в СШ №3 г.Слуцка, то директор школы, очень ретивый исполнитель всех постановлений сверху и любитель показухи, построил весь коллектив во дворе школы для закладки капсулы с посланием к тем, кто будет жить при коммунизме. В кирпичной стене была заранее выдолблена ниша, и в нее после пламенных речей под звуки оркестра была замурована капсула.

Когда после 1980 года без речей и оркестра вскрыли нишу, то капсулы там не оказалось. И всё стало ясно: проклятые империалисты не дали нам построить коммунизм, а спецслужбы США, по-видимому, вскрыли капсулу.

Возвращаясь к реалиям сегодняшнего дня, я хотел бы спросить у бывшего секретаря Компартии Беларуси, имеющего отношение к системе образования: к какому году они собираются завершить строительство коммунизма? Может быть, уже пора закладывать капсулы с посланием потомкам? И еще интересно узнать: собираются ли они построить коммунизм в отдельно взятой стране или мечтают «разжечь пожар мировой революции»?

Валерий ЛИСТОПАД, ударник XII пятилетки.
*д.Лучники Слуцкого района.*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
18 КАСТРЫЧНІКА 2019 г.

ОБ ЭТОМ – ВПЕРВЫЕ!

## Вадим ОСИПЧИК:
# «Не предполагал, что вандализм будет настолько бессмысленным…»

*Директор компании, которая летом этого года запустила в столице «умную» систему велопроката, рассказал «Народной Воле» о плюсах и минусах этого проекта.*

С июля в самых разных местах Минска можно увидеть желтые велосипеды и самокаты – начала работать система велопроката без станций «Колобайк».

Любой человек при помощи мобильного приложения, может найти свободный велосипед или самокат, отсканировать QR-код и – поехал. Вроде все просто, но оказалось, что не очень…

– Мой бизнес в большей степени связан с системами безопасности, но однажды пришла идея организовать уличный прокат велосипедов и электросамокатов, – рассказывает директор компании «Колобайк» **Вадим ОСИПЧИК**. – И появилась она достаточно спонтанно.

Я сам пешеход и нередко ловил себя на мысли, что неплохо было бы сделать в городе так, чтобы можно было в любом месте взять напрокат велосипед, а покатавшись, оставить его там, где он уже не нужен. И потом, есть такие места в городе, куда транспортом добираться неудобно, долго, а на такси – дорого. Кстати, автомобилем я принципиально не пользуюсь уже много лет.

**– С чего начали реализацию проекта?**

– Сначала изучил, как этот сервис работает в других странах. Во многих европейских городах система велошеринга была несколько устаревшая – стояночная. То есть велосипед нужно было оставить только на определенных стоянках.

Но у этого варианта есть много недостатков. Скажем, приехал на стоянку, а там все места заняты. Поехал на другую – там тоже нет мест. Куда в таком случае девать велосипед? Словом, этот вариант дорогой и неэффективный. Во всех европейских городах стояночные велостанции существуют на дотации из городского бюджета. Эту проблему смогли решить в Китае с изобретением бесстояночного шеринга.

**– За основу взяли китайский опыт?**

– Китай – родина бесстояночного («умного») проката велосипедов. В настоящее время, как более передовой и удобный для пользователей, он активно внедряется по всему миру. Я сам во время командировки пользовался этим сервисом, кое-что перенял из китайского опыта и даже усовершенствовал.

Например, в крупном китайском городе Тяньцзинь я ездил на велосипеде по навигатору, но это достаточно неудобно, когда одной рукой приходится держать руль, а второй – навигатор. Поэтому в наших велосипедах мы установили специальные держатели для мобильников и колечки для бутылочек с водой.


Фото auto.onliner.by

**– Какая стоимость желтых велосипедов, которые сегодня заполонили Минск?**

– Около 350 долларов, это достаточно дорогая техника. Многие китайские компании заверяли, что производят хорошие велосипеды, но, когда я хотел узнать о покупателях, не получал ответа. Говорили, что это коммерческая тайна.

А вот производитель, который изготавливал выбранную нами модель велосипеда, не делал из этого секрета – назвал конкретных покупателей в Португалии, Норвегии. Я связался с норвежцами, и те дали только положительные отзывы. Мол, климат хорошо выдерживают, не ржавеют, за три года поломки были минимальные. А про вандализм они вообще ничего не слышали. Счастливчики!

Очень распространен велосипедный вандализм во Франции, но там и цена на прокат соответствующая – полчаса аренды велосипеда стоит 5 евро. И это не из-за того, что во Франции высокий уровень жизни, а потому, что велосипеды часто ломают.

Кстати, если уровень вандализма в Минске будет превышать какие-то расчетные нормы, то мы будем вынуждены поднимать цены на аренду. Нам же надо как-то компенсировать возросшие затраты.

**– Для Минска это тоже проблема?**

– Я сначала думал, что в нашей столице с нашей «памяркоўнасцю» таких проблем не будет. И не предполагал, что в Минске вандализм будет настолько бессмысленный! Люди ломают велосипед не ради какой-то корысти, а просто ради того, чтобы сломать.

С 1 октября наш сервис стартовал в Бресте. Там случаев вандализма пока не отмечено.

**– Что столичные вандалы делают с велосипедами?**

– Бессмысленно ломают их. Или отламывают держатели для мобильного телефона. Он что, кому-то мешает? Мы затратили 12 тысяч долларов ради того, чтобы нашим клиентам было удобно и чтобы это не отразилось на стоимости аренды. Немного обидно.

**– Часто вам приходится судиться?**

– Уже было четыре судебных процесса, всего в милиции зарегистрировано около 35 дел по поводу порчи или кражи нашего имущества.

Три случая в суде вообще были странные – ранее судимые люди взяли велосипед и уже позже, когда их поймали, сами задавались вопросом: «И зачем он нам был нужен?»

Бывали случаи, когда люди под влиянием алкоголя причиняли вред велосипеду, но на следующий день звонили, приносили извинения и компенсировали ущерб.

**– А какая вообще реакция общества на ваш проект?**

– Подавляющему большинству населения Минска и гостям столицы наш сервис очень нравится. Мы получаем невероятное количество благодарностей, положительных отзывов. Часто люди, которые стали свидетелями неджентльменского обращения с техникой, звонят нам. Иногда даже сами пресекают такие случаи. Некоторые высказывают и критические замечания о работе сервиса, к которым мы внимательно прислушиваемся, анализируем. Все рациональное постараемся учесть и исправить к началу следующего сезона.

К своему удивлению я заметил, что люди очень ведутся на провокационную, непроверенную, как сейчас принято называть, фейковую информацию. В интернете на фоне огромной популярности нашего сервиса появилось много фейковых аккаунтов, которые работают и ведут диалог под нашим именем. И в одном из них, в Твитере, написали, что, мол, наши сотрудники отказываются отвечать пользователям, которые пишут на белорусском языке. Хотя на самом деле я прекрасно отношусь и к нашему языку, и к нашей культуре. Но, пока разбирались, кто и что написал, на мою голову все-таки успели вылить ведро грязи. Разобрались – замолчали.

Один даже договорился до того, что сотрудники нашей компании сами ломают велосипеды, чтобы, цитирую дословно, «показать белорусов быдлом». То есть закуплено 3 тысячи дорогих велосипедов только для того, чтобы их сломать? И это нужно для того, чтобы показать белорусов в неприглядном свете? Большего бреда я еще не слышал!

**– Когда дело вы доводите до суда – это уже крайняя мера?**

– Безусловно. Хотя бы потому, что судебное разбирательство – это достаточно долгий процесс. Работа милиции и следователей, суд… Например, до сих пор не было суда по делу о краже велосипеда, которая произошла еще в июле.

Отдельная благодарность сотрудникам правоохранительных органов. Во всех районных управлениях внутренних дел города к нашим проблемам относятся с пониманием, доброжелательно, проявляя при этом высокий профессионализм.

Возможно, существует некоторый негатив со стороны владельцев и работников традиционого, стационарного, проката велосипедов. Конечно, бесстояночный велошеринг кардинально изменил этот сегмент бизнеса. Но технический прогресс происходит во всем, и остановить его невозможно.

Но, знаете, все трудности с лихвой компенсируются теми словами благодарности, которые звучат в адрес сервиса. Люди, которые попрощались с велосипедом еще в детстве, вновь открыли для себя этот замечательный экологичный вид транспорта, полностью соответствущий понятию «здоровый образ жизни». И это очень важно.

**– Велосипеды проходят техническое обслуживание?**

– Да, у нас есть диспетчерская служба, которая отслеживает, анализирует поездки. Если поступают жалобы от пользователей, оперативно устраняем недостатки.

**– Ваши велосипеды постоянно стоят на улице или их забирают?**

– По системе GPS мы видим, где находится каждый велосипед или самокат, и если техника долгое время находится на одном и том же месте, то становится понятно: либо она неисправна, и ее нужно забирать в ремонт, либо просто стоит в неудачном месте.

**– С электросамокатами меньше проблем?**

– Мы не очень довольны выбранной нами моделью самоката. Но уже в следующем году планируем обновить парк самокатов и усовершенствовать имеюшийся. Сейчас их в Минске 250, аренда стоит 15 копеек за минуту плюс 1 рубль за старт аренды. Одним словом, час аренды обойдется в 10 рублей.

**– Для многих это дорого…**

– Аренду самоката сделать более дешевой невозможно, потому что здесь совершенно другая логистика. Несколько раз в день нужно отправлять к нему транспорт для перезарядки аккумулятора. На это задействовано много автомобилей. Большие затраты на топливо и электроэнергию.

**– Самокаты тоже подвергаются атакам вандалов?**

– Не так, как велосипеды. Возможно, потому, что арендует технику, как правило, более состоятельная публика.

Но, как говорят, «герои» есть везде. Например, парень сбросил наш самокат с моста, но потом возместил ущерб. Родители были шокированы поступком сына, который даже не помнит, что он в тот день делал.

**– Когда отправите велосипеды и самокаты на зимовку?**

– Все будет зависеть от погоды. Зимой проведем техническое обслуживание техники, чтобы хорошо подготовить ее к новому сезону.

**– Если судить по первым итогам, этот бизнес-проект окупается?**

– Скажем так: если бы случаев вандализма в отношении техники было меньше, было бы немного веселее. Хотя проект в любом случае будем продолжать и верим в его перспективы…

**Алесь СИВЫЙ.**

У ТЭМУ

## Ровар

*Ровар – служка наш, і лекі,*
*І здароўе, і ўздым.*
*З ім не будзеш ты калекай,*
*Будзеш чуцца маладым.*

*Забывайце пра «Нісаны»,*
*«Вольва», «Опель» і «Фіат».*
*Ровар нам, як узімку сані,*
*Як вясной у кветках сад.*

**Леанід ТРАФІМЧЫК.**

ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ – НЕ

## Зіма будзе маласнежная і мяккая?

Паводле рэлігійнага календара, 14 кастрычніка адзначалася вялікае свята – Пакроў Прасвятой Багародзіцы. Народныя прыкметы сцвярджаюць: гэты дзень у многім вызначае характар будучай зімы. У старадаўнія часы казалі: «Які Пакроў, такой будзе і зіма аж да самай вясны».

У панядзелак выдалася цудоўнае надвор'е па ўсёй Беларусі. У паўднёвых раёнах краіны тэрмометры паказвалі +20°С і нават болей. Вецер быў паўднёва-заходні. Калі верыць тым жа народным прыкметам, то бліжэйшая зіма будзе маласнежная і мяккая, без моцных маразоў.

Што ж, пажывём – пабачым.

**Святлана МАРКАВЕЦ.**

ЧУЛІ?

## МВФ залічыў Беларусь да краін, якія развіваюцца

*Міжнародны валютны фонд стаў ужываць у справаздачах новы падзел краін на групы. Цяпер краіны, якія ўваходзяць у Садружнасць Незалежных Дзяржаў (СНД), не групуюцца разам.*

Частка краін СНД, у ліку якіх і Беларусь, трапіла ў групу «Еўропа, што паўстае і развіваецца». У гэтай групе цяпер таксама Малдова, Расія і Украіна – разам з Венгрыяй, Польшчай, Румыніяй, Турцыяй і краінамі Балканскага паўвострава.

Краіны Балтыі трапілі ў «Развітыя эканомікі». Астатнія краіны, што раней уваходзілі ў СССР, трапілі ў групу «Азія, што паўстае і развіваецца».

Акрамя названых, МВФ таксама дзеліць свет на групы «Лацінская Амерыка і Карыбы», «Сярэдні Усход і Цэнтральная Азія» і «Субсахарская Афрыка».

Групы для еўрапейскіх краін, што не развіваюцца, у МВФ няма. Пры гэтым Фонд прагназуе, што ў 2020 годзе рост валавога ўнутранага прадукту ў Беларусі практычна спыніцца (прагноз Сусветнага банку больш аптымістычны, але не нашмат).




СМУТАК

## На такіх зямля трымаецца

15 кастрычніка пайшоў з жыцця **Генадзь Леанідавіч Малючэнка**, верны спадарожнік жыцця легендарнай беларускай жанчыны Маі Тодараўны Кляшторнай, дачкі таленавітага паэта і перакладчыка Тодара Кляшторнага, які загінуў у «расстрэльную ноч» з 29 на 30 кастрычніка 1937 года.

53 гады яны, Генадзь Леанідавіч і Мая Тодараўна, былі адным цэлым. Выгадавалі дзвюх дачок, унучку і ўнука, радаваліся праўнуку.

Калі напрыканцы 1980-х на Беларусі адчуліся павевы ветру новай гісторыі, Мая Тодараўна, якая ўсё жыццё несла памяць пра без віны расстралянага бацьку, пра пакуты сасланай у КарЛАГ маці, паўстала ля вытокаў стварэння грамадскай арганізацыі «Мартыралог Беларусі», што ставіла на мэту данесці да людзей праўду пра сталінскія злачынствы, зрабіць вядомымі імёны ахвяр, увекавечыць іх памяць, каб такое ніколі больш не паўтарылася на нашай зямлі.



Гэта дзейнасць патрабавала самаахвярнасці, неймаверных высілкаў, часу. Разумеючы, як гэта важна для жонкі, Генадзь Леанідавіч стаў яе верным тылам, узяў на сябе шмат клопатаў пра дом і дзяцей. Цяжка пераацаніць тое, што было зроблена Маяй Тодараўнай, але можна смела дадаць – разам з мужам.

Прыгожы, абаяльны, вельмі інтэлігентны чалавек. Генадзь Леанідавіч быў надзвычай зычлівым, валодаў асаблівым пачуццём гумару, жартаваў з сур'ёзным тварам, быццам стрымліваючы сябе. Быў з тых, хто бачыў унутраную сутнасць рэчаў, меў сапраўдны канструктарскі талент, увесь час нешта будаваў-майстраваў: уся кватэра і лецішча абуладкаваны яго руплівымі рукамі. На такіх, як кажуць, зямля трымаецца.

Тры дні таму наша зямля абяднела, а на небе ў нас стала адным апекуном больш.

Калектыў рэдакцыі «Народнай Волі» спачувае Маі Тодараўне Кляшторнай-Малючэнка, дочкам Тамары і Таццяне, унукам Хрысціне і Іллю, праўнуку Марату. Хай саграваюць вашы сэрцы памяць пра цудоўнага мужа, бацьку, дзядулю – Генадзя Леанідавіча Малючэнку.

КІНАФЭСТ

## А магла б прыехаць Жульет Бінош…

Праз тры дні, 21 кастрычніка, адкрыецца продаж квіткоў на 26-ы Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» – праз інтэрнэт і ў касе кінатэатра «Масква». Квіткі, заўважу, як заўсёды, недарагія – у сярэднім па 4–6 рублёў за сеанс, акрамя ўрачыстых кінапаказаў на адкрыцці і закрыцці фестывалю – каб трапіць туды, прыйдзецца выкласці сумленна зароблену дваццатку. Але гэта і зразумела.

Кінафэст у гэтым годзе стартуе ў Мінску 1 лістапада. Чамусьці да гэтага часу трымаецца ў сакрэце фільм, які пакажуць на адкрыцці форуму, – а гэта, як правіла, адна з лепшых карцін года. Не абвяшчаецца і імя старшыні журы асноўнага ігравога конкурсу. Звычайна гэта кінаперсона еўрапейскага ўзроўню, якая цудоўна ўпрыгожвае фестывальную атмасферу. Падазраю, што ў арганізатараў не ўсё складваецца так, як хацелася б.

Міжволі пацвердзіў мае здагадкі праграмны дырэктар «Лістапада» **Ігар Сукманаў**, які сказаў, што, безумоўна, хацелася б запрасіць, напрыклад, Жульет Бінош. Але, на яго думку, за гэтыя грошы ўсё ж такі лепш прывезці 20 невялікіх творчых груп з розных краін з іх экзатычнымі або незвычайнымі фільмамі. Таму што бюджэт фестывалю невялікі – усяго 450 тысяч долараў. Не варта ахаць – кінафестываль у Карлавых Варах, напрыклад, каштуе 2,5 мільёна еўра.

Тым не менш у «Лістападзе-2019» возьмуць удзел 154 карціны з 50 краін – гэта калі лічыць паказы ва ўсіх секцыях, у тым ліку ўсю шырокую пазаконкурсную праграму, на якой упершыню ў гэтым годзе пакажуць нават фільмы з Судана і Сенегала.

Але нас, вядома, у першую чаргу цікавіць конкурс ігравога кіно – там будзе дэманстравацца толькі 12 карцін. Столькі ж стужак будзе прадстаўлена ў другім па значнасці конкурсе – «Маладосць на маршы», які збярэ самыя цікавыя дэбютныя працы рэжысёраў.

Несумненна, за апошнія два гады моцна вырас, набраў ачкоў і Нацыянальны конкурс, які праводзіцца ў рамках «Лістапада». Вось тут імя старшыні журы не проста вядома – гэтага творцу вельмі любяць у нашай краіне. Гэта вядомы польскі рэжысёр Кшыштаф Занусі. Сёлета на конкурс даслалі свае заяўкі 83 беларускія аўтары. Адабраны былі 19 карцін – дакументальнае кіно, анімацыя, пазаконкурсная праграма. Плюс пяць карцін для конкурсу ігравога кіно. Разам – усяго 24 стужкі. І ніякіх скандалаў, дэмаршаў і гутарак пра цэнзуру. Перш за ўсё таму, што ёсць цэнзура мастацкага густу і высокага прафесіяналізму з боку праграмных дырэктараў фестывалю. Мастацтва – гэта іерархія, адбор, строгія крытэрыі. А калі валіць усё ў кучу, то навошта тады наогул патрэбны якой бы там ні было конкурс? Ну і, акрамя ўсяго іншага, у Міністэрства культуры прыйшла новая каманда чыноўнікаў, якія адказваюць за кіно. І нават фільм Аляксандра Міхалковіча «Мая бабуля з Марса» (Беларусь–Украіна), які быў зняты з мінулага «Лістапада», у гэтым годзе спакойна ўдзельнічае ў конкурсе дакументальных стужак Нацыянальнага конкурсу.

Калі казаць пра ігравое кіно, то ў праграму Нацыянальнага конкурсу ўвайшлі новыя стужкі рэжысёраў – пераможцаў «Лістапада» мінулых гадоў. Мікіта Лаўрэцкі прадставіць фільм «Сашына пекла». Трэба заўважыць, што стужка ўдзельнічала як пазаконкурсная на Маскоўскім міжнародным кінафестывалі, які прайшоў вясной, і ў цэлым была прынята пазітыўна. Рэжысёры Юлія Шатун і Мікіта Аляксандраў пакажуць сваю новую працу «Апошні дзень гэтага лета». Калі ўлічыць, што для маладога рэжысёра другі фільм нават важней, чым першы (які можа быць проста выпадковай удачай), то зразумела, з якім унутраным хваляваннем рэжысёры чакаюць вердыкту гледачоў і крытыкаў.

І як рэмарка. У праграме ігравога кіно Нацыянальнага конкурсу ёсць карціна «1986» нямецкага рэжысёра Лотара Херцага. Чаму яна трапіла ў гэты спіс? Каардынатар праграмы Мікалай Лаўранюк адказаў так: «Нягледзячы на тое, што гэту карціну зняў нямецкі рэжысёр, мы вырашылі ўключыць яе ў Нацыянальны конкурс, таму што яна цалкам знята ў Беларусі, цалкам унікальная па духу і прысвечана чарнобыльскай трагедыі».

**Алена МАЛОЧКА.**

